


№19 ЛЮТЫ 2000

Свабода, справядлівасць, салідарнасць

# ГРАМАДА

Інфармацыйны бюлетэнь Гродзенскай грамадскай арганізацыі "МАЛАДАЯ ГРАМАДА"

## Будзем жыць з задуранымі галовамі і бяднець...

Ад пачатку 2000 года прайшло ўжо прыкметна часу. Беларусы ўжо амаль з усім звыкліся.

Звыкліся з тым, што жывуць без трох нулёў на разліковых білетах. Звыкліся, як гэта ні дзіўна, з расейскім і.о. Звыкліся і, нарэшце, з тым, што як бы ні гаварыла вусатая карцінка з тэлэкрану, чаго б не абяцала, жыць будзе чамусьці ўсё горш і горш.

Аднак беларус ня быў бы беларусам, каб не чакаў, што вось-вось, як у той рэкламе "вон-вон-вон, трэцяя справа", стане раптам лёгка, весела ды багата.

**Чаго ж чакаем мы, жыхары Беларусі, на што спадзяемся, на што будзем маліцца ў бліжэйшыя месяцы 2000 года?**

***Дзмітрый, вучань 11 класа школы №3 г.Шчучына***: У гэтым годзе чакаю новых знаёмстваў і новых сяброў, цікавых і прыемных. Разлічваю не падмануць матуліных надзей і ўжо ў гэтым годзе стаць студэнтам БДПА. Увогуле, я чалавек аптымістычны і думаю, што год пройдзе весела і лёгка.

***Аляксандр, будаўнік, лідчук***: Нічога не зменіцца ў нашым беларускім жыцці. Як звычайна, будуць расці дзеці, будзем старэць, хварэць, хадзіць на працу — жыць патроху з задуранымі галовамі і бяднець.

***Аляксандр, вайсковец на пенсіі***: Цалкам падтрымліваю сённяшняга беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку. Хачу і аб'ектыўна лічу, што і напрацягу бягучага году ён будзе цвёрда трымацца за ўладу. Жыццем сваім на дадзены момант я задаволены: стабільна атрымліваю пенсію, акрамя таго сам зарабляю дадатковыя грошы. Думаю, што адзіная саюзная дзяржава Расеі і Беларусі будзе створана. Перамена ўлады ў Расеі да таго ж не павінна істотна паўплываць на яе адносіны з нашай краінай. Пуцін – чалавек цвёрды, рашучы, умее кіраваць людзьмі, ён навядзе парадак у дзяржаве.

***"Дзядзя Віця", шчучынскі паэт***: Усё будзе ісці, як ідзе. Нічога асаблівага я не чакаю. А калі што і здарыцца, то будзе ўдвая прыемней: заўсёды радуешся сюрпрызам. Якія прагнозы? Не ведаю, я не метэастанцыя, каб даваць прагнозы.

***Вячаслаў, выкладчык, гарадзенец***: Чакаю сына: так, хутка я стану татам. Чакаю, што жыццё наша зменіцца да лепшага, што, нарэшце, выкладчыку дадуць заробак, дастаткова не толькі для таго, каб пракармімць сям'ю, але і забяспечыць ёй нармальнае, годнае існаванне. Чакаю новай, дэмакратычнай, цывілізаванай улады, пры якой Беларусь стане не проста геаграфічным цэнтрам Еўропы, а сапраўднай еўрапейскай дзяржавай. Чакаю перамен з Усходу: адыход Ельцына ў адстаўку стаў, безумоўна, самай значнай падзеяй мінулага года. Паглядзім, якія змены адбудуцца ў палітыцы нашай суседкі, але Лукашэнку, я думаю, там ўжо нічога не свеціць.

***Ніна, работніца вытворчага прадпрыемства "Азот"***: Нічога я не чакаю. Грошай як не было, так і не будзе. Адзінае, што кошты ў крамах не тое, што меншыя, зручнейшыя сталі: нулі пералічваць ужо не трэба. Але, думаю, хутка зноў мільёны да нас вернуцца — нічога з іхняй дэнамінацыяй не будзе. Абяруць народ, як заўсёды, і ўсё. Абы дзеткі здаровыя былі.

***Наталля, бібліятэкарка***: У новым годзе чакаю толькі самага добрага, шчасця, здароўя. Таго ж і ўсім жадаю.

*Распытвала Алеся Сідлярэвіч*

## Яшчэ раз пра каханьне

Закаханыя! 14 лютага — Ваша сьвята! Вы кахаеце — гэта цудоўна! Які грып, якая інфэкцыя!? Пацалунак вылечыць ад усіх хваробаў, душа ўзляціць да нябёсаў ад кароткага: "Кахаю!"

А ці ведаеце вы, што Дзень Сьвятога Валянціна, каторы лічыцца ва ўсім сьвеце сьвятам закаханых, абавязаны трагічнаму каханьню мададога хрысьціянскага сьвятара Валянціна? Гэтая гісторыя адбылася яшчэ ў III стагодзьдзі да нараджэньня Хрыстова, у часы жорсткага гімпэратара Клаўдзія. Ён лічыў, што мужчыны створаны толькі для пераможных ваенных падзей, "шлюбныя глупствы" — не для іх. Але ж, нягледзячы на забароны, сьвятар таемна шлюбаваў закаханых. За што і быў пакараны. Гімпэратар пасадзіў неслуха за краты й загадаў пазбавіць яго жыцьця. У турэмніка была дачка, прыгожая маладая дзяўчына, зь якой таемна ліставаўся сьвятар, седзячы ў камеры й чакаючы выкананьня прысуду. Маладыя людзі пакахалі адзін аднаго, і гэтае ўзвышанае, рамантычнае каханьне было пакарана разам з Валянцінам 14 лютага 270 году. А апошняе пасланьне "ад Валянціна" і стала правобразам сучасных "валянцінак".

Але для таго, каб прызнавацца ў каханьні, ня трэба чакаць цэлы год. Рабіце гэта кожны дзень, бо толькі каханьне здольна перамагчы ўсе цяжкасьці нашага жыцьця, толькі каханьне натхняе чалавека на стваральную працу й робіць магчымасьць рэалізаваць сябе ў гэтым жыцьці, робіць яго шматкаляровым і цікавым.

## 23 лютага — Дзень БКА

Сёньняшняя ўлада па сваёй савецкай традыцыі сьвяткуе Дзень абаронцаў Айчыны. Мы мусім зь імі пагадзіцца. Так, ёсьць такое сьвята. Яно беларусам таксама вядома.

23 лютага 1944 года была створана Беларуская Краёвая Абарона.

Як кажа "Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі. Т.1.": гэта вайсковае фарміраваньне для барацьбы супраць бальшавізму на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі. Кіраўніком БКА быў вядомы ў той час маёр Ф. Кушаль.

Усяго да прыходу Савецкіх войскаў было мабілізавана ў БКА каля 25 тысяч чалавек, зь якіх планавалася сфармаваць 48 батальёнаў. Але да красавіка 1944 было створана 36 пяхотных і 6 сапёрных батальёнаў. Афіцэры ды падафіцэры БКА праходзілі падрыхтоўку на 3-х тыднёвых курсах у Менску, шэраговыя — на месцах службы.

25 сакавіка 1944 да дня БНР былі ўведзеныя знакі адрозьненьняў чыноў ды званьні: лейтэнант, старэйшы лейтэнант, капітан, маёр, падпалкоўнік — для афіцэраў. Для падафіцэраў: дружынавы ды зьвязавы.




Але мэты БКА як беларускага войска не былі азначаныя, таму немцы выкарыстоўвалі гэтае войска па-свойму: ахова складаў, праца ў сельскай гаспадарцы ды іншых мэтаў.

Час не дазволіў дзень стварэньня БКА зрабіць нацыянальным сьвятам. Сёння аднак некаторыя арганізацыі робяць нешматлікія спробы гэты дзень усё ж сьвяткаваць, выпускаючы да дня БКА каляндарыкі ці ўлёткі. Прыклады "агітак" прыводзім.

*Ігар Банцар*

# Наркотыкі "размаўляюць" з падлеткам

Гаварыць пра наркотыкі нялегка. Але ці не трэба гэта зрабіць перад тым, як нехта гэта зробіць да вас?

**Размова — гэта істотна**

Падлеткі паўсюдна ў свеце сутыкаюцца з праблемамі наркотыкаў. Амаль палова амерыканскіх (беларускіх, бадай, больш) цінэйлжэраў ужываюць штотыднёва алкаголь. Адна трэць ужывае марыхуану рэгулярна. І гэта не "кепскія" дзеці. Гэта нашы дзеці.

Бацькі маюць рацыю, калі непакояцца пра сваіх дзяцей. Ніхто з нас не хацеў бы бачыць сваё дзіця, якое руйнуе сваё здароўе, жыццё, ужываючы наркотыкі. Мы можам дапамагчы падлеткам не выбраць наркотыкі. Мы можам прадэманстраваць пераканаўчыя факты. Таму мы павінны вучыць сваіх дзяцей, каб зберагчы іх ад страшнай хваробы. Яны павінны адчуць, што мы іх любім і хачам, каб яны сталі без наркотыкаў.

**Веданне фактаў**

Даведайцеся максімальна больш інфармацыі пра наркотыкі і алкаголь. Інфармацыя даступная ў бібліятэках, цэнтрах здароўя. Толькі сумесныя дзеянні і згода і бацькі і маці могуць быць эфектыўнымі, нават калі яны ўжо не жывуць разам.

**План размовы**

Вельмі карысна мець план размовы. Прыблізна наступнае: свае пачуцці і адносіны, мэты сям'і, галоўныя факты супраць ужывання наркотыкаў і алкаголя. Паспрабуйце праіграць размову па ролях: вы і ваш падлетак. Гаварыце ўголас, каб чуць свае словы і інтанацыю голаса.

**Не паказвайце дрэнных прыкладаў!**

Калі вы не хочаце, каб падлетак ужываў алкаголь або наркотыкі, вы самі павінны сачыць за сабой і практыкаваць тое, што прапагандуеце. (Шмат дзяцей вучацца на прыкладах, у тым ліку і сваіх бацькоў).

**Пачатак размовы**

Вызначце месца і час для размовы, каб яна адбывалася без перарыву.

Некаторыя знаходзяць больш лёгкім гаварыць падчас агляду тэлевізара або язды на машыне. Калі вам даволі цяжка праводзіць размову, знаходзячыся ў адным пакоі, можна зрабіць гэта па тэлефоне або напісаць ліст.



Можна распачаць прыблізна так: "Мы ніколі не размаўлялі пра гэта раней. Я даволі ўсхваляваны, але я хацеў бы ведаць, што ты думаеш пра тое, што падлеткі ужываюць наркотыкі і алкаголь". "Я чуў дэвіз "Толькі скажы НЕ наркотыкам!" Гэта сапраўды спрацоўвае? Магчыма мы можам зрабіць яшчэ нешта, для таго, каб справіцца з нашай праблемай."

**Размова**

Толькі не ў выглядзе лекцыі.

Гаварыце пра наркотыкі як пра рэч, якая хвалюе большасць людзей.

Удакладніце сямейныя адносіны да ўжывання алкаголю і наркотыкаў.

Не ўжывайце двайных стандартаў (для хлопцаў і дзяўчат). І адныя і другія маюць аднолькавую рызыку мець праблемы з наркотыкамі і алкаголем.

Паважайце тое, пра што гаворыць вам падлетак. Выслухайце ўважліва, без перапынення.

Калі вы не маеце адказу на пытанне, то шчыра скажыце пра гэта.

Прыдумайце альтэрнатыву наркотыкам. Спорт, камп'ютэр і г.д.

Гаварыце некалькі разоў: наладжванне даверальнага кантакту патрабуе працяглага часу.

**Калі падлетак ужо ўжывае наркотыкі**

Лепей, канешне, пагаварыць з падлеткам да крызісу. Мэта — прафілактыка, а не інтэрвенцыя.

Некалькі падазроных знакаў:

Змены ў настроі або паводзінах — дэпрэсія, трывожнасць, раздражнёнасць, адасобленасць ад сям'і, школы або грамадскай дзейнасці, працяглы час у адзіноце, імпульсіўнасць.

Любы з гэтых момантаў павінен узбуджаць пільную ўвагу.

# Святы Валянцін спускаецца ў Гародні...

Свята — гэта заўсёды прыемна, свята любві і кахання — тым больш.

Чарговы раз прадстаўнікі "Маладой Грамады" і "Маладога Фронту" святкавалі Дзень Святога Валянціна разам з гродзенцамі.

13 лютага ў нядзелю на традыцыйным месцы — Дом Сувязі — адбыўся пікет "Я ЛЮБЛЮ!". Тэматыка таксама разнастайная: ад прапаганды здаровага ладу жыцця і раздачы прэзерватываў з інструкцыямі па іх выкарыстанню да адстойвання ідэалаў чыстага, сумленнага кахання, любві да навакольных ды навакольнага.

Можна з упэненасцю сказаць — удалося. Перш за ўсё, моладзь дэманструе свае погляды адкрыта і публічна. Як ні сумна, большасць з нашых суайчыннікаў нават не ўяўляюць, што нешта можна выказаць публічна, і за гэта табе нічога не будзе. Назіраецца прагрэс: людзі памалу становяцца актыўнымі ўдзельнікамі падобных мерапрыемстваў. Ужо менш чуваць: "Чаго вы тут стаіце?.. Чаго вам трэба?.. Колькі вам за гэта заплацілі?" Нават бабулям, каторыя спрабавалі прыбраць зарэгістраваны сцяг у нацыянальных бел-чырвона-белых колерах, міліцыянеры цывілізавана патлумачылі, што гэта — беларускі сцяг. Прэзерватывы бяруць ахвотна і не шугаюцца ад падыходзячых маладых людзей, якія толькі хочуць ад усяго сэрца павіншаваць са святам любві. Адна з найбольш удалых ідэй — каляндарыкі-Валянцінкі. Гэта тое, што застанецца з большасцю атрымальнікаў як мінімум на год.

Акцыя стала ў чарадзе рэспубліканскай хвалі па святкаванню Дня Святога Валянціна: мы вучымся рабіць рэчы разам, для сябе і навакольных. Дарэчы, каб кіраўнікі Беларусі накіравалі свае намаганні менавіта ў такім рэчышчы і рабілі для сябе і навакольных (для нас), то вынікі былі б і ў сферы палітычнай, і эканамічнай значна лепшымі.

***Юзік і Казік***

*P.S. "Маладая Грамада" падавала ў гарвыканкам заяву ад арганізацыі (а не ад фізічных асоб, як гэта робіцца часцяком), але атрымала адмову на падставе таго, што арганізацыя не прайшла перарэгістрацыю. Цікава, ці то юрысты прыкідваюцца, ці то (хутчэй за ўсё) наўмысна робяць, але наколькі вядома, папярэдняя рэгістрацыя ("МГ" стаіць на ўліку ў гарвыканкаме з 1997 года) дзейнічае да моманту перарэгістрацыі. На час падачы заявы дакументы на перапастаноўку арганізацыі на ўлік ужо былі ў гарвыканкаме (дарэчы, справа цягнецца па сённяшні дзень). Таму рашэнне, прынятае персанальна В.Я. Шанцілам (загадчыкам юрыдычнага аддзела гарвыканкама) не мае ніякіх законных падставаў.*



# Адраджэнне сацыял-дэмакратычнага руху на Беларусі



*1-шы старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ - прафесар Міхась Ткачоў*

Адраджэнне сацыял-дэмакратыі на Беларусі адбылося напачатку 90-х гадоў. Ініцыятарамі стварэння сацыял-дэмакратычнай партыі выступілі прадстаўнікі навуковай і творчай інтэлігенцыі. Вялікая заслуга ў адраджэнні сацыял-дэмакратыі належыць прафесару Міхасю Ткачову. Як успамінаў Анатоль Сідарэвіч, у ліпені 1990 года па дарозе на Грунвальд М.Ткачоў завёл з ім гутарку аб аднаўленні Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Так пачала фармавацца група аднадумцаў.

Падрыхтоўка да аднаўлення сацыял-дэмакратычнага руху ў Беларусі адбывалася павольна. Патрэбна было сабраць людзей блізкіх па перакананнях. Было вырашана, што ў назве будучай партыі спалучацца назвы дзвюх яе папярэдніц — Беларускай Сацыялістычнай Грамады і Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі. Так аднаўлялася сувязь часоў, перарваная традыцыя. 1 снежня 1990 года ў мінскім Доме літаратара адбываўся форум беларускай інтэлегенцыі. Тут і прагучала заява пра тое, што пачынаецца адраджэнне беларускай сацыял-дэмакратыі. Праз некалькі дзён афарміўся ініцыятыўны камітэт па стварэнні (адраджэнні ) Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады (БСДГ). У канцы студзеня 1991 года ініцыятыўны камітэт ператварыўся ў арганізацыйны для склікання і правядзення ўстаноўчага з"езда. У газеце «Літаратура і мастацтва» былі надрукаваны праекты статута і праграмнай заявы.

Устаноўчы з"езд БСДГ адбыўся 2-3 сакавіка 1991 года ў Мінску. На ім былі зацверджаны статут і праграмная заява, абраны кіруючыя органы. Першым старшынёю Цэнтральнай рады стаў доктар гістарычных навук, прафесар Міхась Аляксандравіч Ткачоў, яго намеснікамі былі абраны Мікола Крыжаноўскі, Алег Трусаў, Ігар Чарняўскі. Новая партыя абвясціла сябе пераемніцай Беларускай Сацыялістычнай Грамады і Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі, часткай міжнароднага сацыял-дэмакратычнага руху. Асноўнымі прынцыпамі БСДГ сталі свабода, роўнасць, салідарнасць, дэмакратыя, прыярытэт права. Сацыяльную базу склалі кваліфікаваныя рабочыя, навукова-тэхнічная і мастацкая інтэлігенцыя, настаўнікі, юрысты, эканамісты, медыкі. Вельмі актуальна і для сённяшняга дня прагучалі слова з даклада М.Ткачова:» Зыходзячы з аналізу сучаснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы і вакол яе, рэальна ацэньваючы наш сённяшні дзень, з трывогай думаючы пра дзень заўтрашні, пра будучыню роднай Беларусі, пра шляхі яе дальнейшага сацыяльна-дзяржаўнага развіцця, усведамляючы, што неабходнай мовай для выхаду з крызісу і стварэння сапраўды цывілізаванай грамадзянскай супольнасці, сапраўды дэмакратычнай, прававой дзяржавы з"яўляецца існаванне такіх інстытутаў, як шматпартыйнасць, разнастайнасць формаў уласнасці і палітычных структур, свабоднае выяўленне думак, перакананняў і інтарэсаў, мы прыйшлі да высновы, што ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі павінна заняць належнае месца беларуская сацыял-дэмакратыя. Мы прыйшлі да высновы аб неабходнасці стварэння (адраджэння) БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ».



*На першым з`ездзе БСДГ. Сакавік 1991 г.*

А ў заключным слове на Устаноўчым з"ездзе Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады МІхась Ткачоў сказаў: « Хочацца парадавацца разам з вамі: адбылася гістарычная з"ява — мы адрадзілі, а можна сказаць, стварылі нанова партыю сацыял-дэмакратыі. Партыю надзеі, партыю пакрыўджанага і абражанага, падманутага народа, які нацярпеўся за семьдесят гадоў ад таталітарнай сістэмы ... Мы свядома становімся ў шэрагі змагання за будучыню нашага народа. Мы ідзем туды не для таго, каб шукаць сабе нейкія партфелі і крэслы, мы свядома ідзем на тое, што нас будуць ганіць, мы ведаем, што ярлыкі для нас гатовы. Але мы будзем рабіць так, як гаворыць нам біблейская мудрасць — паклаўшы рукі на плуг, не азірайся ... Дык давайце ж падымем дзірван нашай няшчаснай гісторыі, узаром гэтую самую глебу, каб прараслі на ёй залатыя зярняты нашай надзеі, нашай будучыні. І няхай нам у гэтай сяўбе спрыяе і наша прырода, і наш народ, і ўсе сілы — нябесныя і зямныя ! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!»

На другім з"ездзе БСДГ у канцы 1992 года была прынята праграма і зацверджаны змены і дапаўненні ў статуце. За кароткі час партыя стала ўплывовай палітычнай сілай, мела сваю фракцыю ў Вярхоўным Савеце 12 склікання, многія сябры партыі ўваходзілі ў склад кіруючых органаў многіх палітычных і грамадскіх арганізацый і рухаў. У верасні 1992 года на XIX кангрэсе Сацыялістычнага Інтэрнацыянала партыя атрымала статус пастаяннага госця. На жаль, вельмі хутка пасля ўтварэння БСДГ перастала біцца сэрца яе аўтарытэтнага лідара Міхася Ткачова. Але гэта не паўплывала на ролю партыі ў грамадстве. Яна працягвала ўзмацняцца колькасна і якасна. Пасля смерці М.Ткачова старшынёю Цэнтральнай рады стаў Алег Трусаў, якога змяніў на гэтай пасадзе Мікола Статкевіч. Пасля прэзідэнцкіх выбараў на Беларусі ў 1994 годзе і ў сувязі са змяніўшайся палітычнай сітуацыяй лагічным працягам сацыял-дэмакратычнага руху стала ўтварэнне Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі (Народная Грамада) ў выніку зліяння ў 1996 годзе БСДГ і партыі «Згода». З гэтага часу пачаўся новы этап у развіцці сацыял-дэмакратыі на Беларусі.

***Падрыхтаваў***
***кандыдат гістарычных навук***
***Сяргей Піваварчык***



*Сябры БСДГ на мітынгу ў час прысягі на вернасць Бацькаўшчыне. Плошча Незалежнасці. Мінск. 8/9/1992*

# Швецыя: моладзь і факты




Насельніцтва Швецыі складае прыкладна 10 мільёнаў. З іх амаль 30% — маладыя людзі да 25 год.

**Адукацыя**

*Абавязковая базавая адукацыя*

Сярэдняя адукацыя ў Швецыі абавязковая і складае дзевяць гадоў. Дзеці пачынаюць вучыцца ў 6 або 7 гадоў. Сярэдняя колькасць вучняў у класе складае 22. Першыя шэсць гадоў вучні маюць пераважна аднаго настаўніка. З семага класа іх вучаць настаўнікі-прадметнікі, прычым дзеці павінны выбраць самі з пэўнай колькасці дысцыплін тыя, якія будуць вывучаць. У дадатак, можна выбраць як нармальныя так і паглыбленыя курсы матэматыкі або замежнай мовы.

*Сярэдняя адукацыя*

Так званая вышэйшая сярэдняя школа складаецца з прыкладна 30 вучэбных праграм, вядомых як "лініі" і болей як 500 спецыяльных курсаў. Колькасць вучняў, якія атрымоўваюць сярэднюю адукацыю з кожным годам узрастае. Калі ў 1975 годзе толькі каля 65% ішлі ў вышэйшую сярэднюю школу, то сёння болей за 90%, прычым 80% з іх паспяхова яе сканчваюць.

*Адзнакі*

Да 9 года навучання ў шведскіх базавых школах адзнакі не ставяцца. "Адзнакі" выстаўляюцца настаўнікамі толькі падчас індывідуальнай працы для таго, каб вызначыць дасягненні ў той ці іншай дысцыпліне. У вышэйшых школах адзнакі выстаўляюцца, прычым выніковыя: пад канец кожнага семестра. У Швецыі 5-бальная сістэма. 1 — мінімальная, 5 — максімальная адзнака.

*Спаборніцтвы*

На сённяшні дзень штогод каля 120 000 вучняў залічваецца ў вышэйшыя школы на "лініі". З іх 72% — з першай спробы. Найбольш папулярныя лініі: сацыяльныя навукі і эканоміка (каля 11%). Найбольшы ж працэнт залічаных з першага разу — на інжынерыю і натуральныя навукі (каля 90%).

*Розніца паміж поламі*

Падзел працоўнага рынку на мужчынскія і жаночыя прфесіі цалкам адпавядае размеркаванню палоў у "лініях" вышэйшай школы. Прамыслова-арыентаваныя "лініі" цалкам "хлапчуковыя", дзяўчаты дамініруюць у сацыяльна-арыентаваных службах і тэкстыльнай прамысловасці.

**Колькасць вучняў (15 год), якія ўжываюць алкаголь, табак, наркотыкі**

| | Хлопцы | | Дзяўчаты | |
|---|---|---|---|---|
| | 1977 | 1998 | 1977 | 1998 |
| Піць* | 88 | 80 | 90 | 77 |
| Паляць | 25 | 22 | 40 | 27 |
| Ужывалі наркотыкі | 8 | 5 | 8 | 4 |

**П'юць — хаця б 1 шклянку піва (або суадносна віна ці гарэлкі) адзін або два разы ў год*

*Вышэйшая адукацыя*

Прыкладна каля 200 000 студэнтаў навучаецца ў вышэйшых навучальных устновах Швецыі. Больш за палову навучаюцца ў шасці універсітэтах.

Сістэма вышэйшай адукацыі падзелена на 5 сектараў: тэхнічныя прафесіі; сацыяльная праца, адміністратыўныя і эканамічныя прафесіі; медыцынскія і парамедыцынскія; настаўніцкія; камунікацыйныя і культурныя прафесіі.

Навучанне бясплатнае.

Прыкладна 60% усіх студэнтаў — жанчыны.

**Вайсковая служба**

Сістэма абароны Швецыі заснавана на агульнай воінскай павіннасці. Асноўная служба, каторую большасць праходзіць з 18 гадоў, працягваецца 7,5 — 17,5 месяцаў (для большая часткі гэты тэрмін складае ад 7,5 да 10). Да 47 гадоў перыядычна мужчыны выклікаюцца на вайсковыя зборы.

**Рынак працы**

Прыкладна 600 000 маладых людзей да 25 год працуе. З іх 60% на сталай, 40% на часовай працы. Каля 30% моладзі працуе на вытворчасці. Вельмі цяжка знайсці працу людзям толькі з базавай 9-гадовай адукацыяй. Таму ўладамі наладжаны курсы перакваліфікацыі па розных спецыяльнасцях. Усе выдаткі пры гэтым пакрывае дзяржава.

*Беспрацоўе*

Сярод моладзі 16-20 гадоў прыкладна 13% беспрацоўных. Каля 40 000 былі ўключаны ў навучальныя дзяржаўныя курсы для атрымання спецыяльнасці.

Сярод нешведскай моладзі беспрацоўе ў 2 разы вышэйшае, чым сярод шведскай. Аказваецца, працу шукае больш працяглы час малады чалавек, бацькі якога маюць нізкі прыбытак. Лягчэй уладкоўваюцца на працу дзеці сярэднезаможных і заможных бацькоў.

Істотны таксама геаграфічны аспект. Працу лягчэй знайсці ў вялікіх гарадах.

*Занятасць насельніцтва*

Каля 40% эканамічна актыўных жанчын ва ўзросце 16-24 год заняты ў грамадскім сектары, у той час калі мужчын — 12%. Каля 70% маюць пастаянную працу. Аднак сярод мужчын гэта 76%, сярод жанчын — 61%.

*Часовая занятасць (падчас выходных ці канікулаў)*

Працаўладкаванне моладзі падчас вучобы даволі папулярнае. Кожны трэці з 13-гадовых, 9 з 10 18-гадовых працуюць у час летніх канікулаў ці выходных.

*Адносіны да працы*

Каля 38% маладых людзей ва ўзростце 16-24 гады сказалі, што сям'я — галоўная мэта на будучыню.34% хацелі б адчуваць сябе свабодна і рабіць тое, што па душы, тады калі 12 % аддаюць перавагу прафесійнай кар'еры. Увогуле, мець цікавую працу больш важна, чым займацца кр'ерай.

**Жыллё і сям'я**

На сённяшні дзень больш за палову маладых людзей пражываюць у асобных дамах. 78% маладых людзей жывуць з бацькамі. Калі ж яны пакідаюць бацькоўскі дом, карціна цалкам змяняецца. 74 % жывуць сумесна з кімнебудзь яшчэ, прычым 89% жывуць у шматпавярховых дамах.

Маладыя людзі пакідаюць бацькоўскі дом усё раней і раней. Сярэдні ўзрост пры гэтым — 20 і 19 гадоў для хлопцаў і дзяўчат адпаведна.

*Сям'я і дзеці*

Жыццё разам без афармлення шлюбу юры-

*(працяг на наступнай старонцы)*

# НАША ЕЎРОПА — ЗЛЕВА

(Што такое **ECOSY**?)

Еўрапейская Супольная Арганізацыя Сацыялістычнай Моладзі (**ECOSY**) яднае сацыялістычныя моладзевыя рухі Еўрапейскага Саюза, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і Сяродземнамор'я.






Арганізацыя была заснавана 9 лістапада 1992 года ў Гаазе з наступнымі мэтамі:

спрыяць і падтрымліваць каштоўнасці дэмакратычнага сацыялізму

абараняць інтарэсы маладых людзей у Еўрапейскіх інстытуцыях

спрыянне станаўленню Еўрапейскага грамадзянства і дасягненне ўзаемаразумення.

**ECOSY** з'яўляецца моладзевай арганізацыяй Партыі Еўрапейскіх сацыялістаў (**PES**) і працуе ў шчыльнай кааперацыі з Міжнародным Саюзам Сацыялістычнай Моладзі (**IUSY**) і з'яўляецца сябрам Моладзевага Форуму Еўрапейскага Саюза.

Сябры **ECOSY** дэкларуюць:

Маладыя людзі павінны адыгрываць істотную ролю. Неабходна пачуццё актыўнасці для таго, каб несці адказнасць за сённяшнія праблемы. Намаганні маладых сацыялістаў павінны адпавядаць найвялікшым праблемам: павелічэнню беспрацоўя і сацыяльнай няроўнасці, праблеме навакольнага асяроддзя, новым тэндэнцыям развіцця ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, павелічэння разрыву ва ўзроўні жыцця паміж Поўначчу і Поўднем.

Левыя былі заўсёды моцныя іннавацыямі ў палітыцы. Гэта азначае асэнсаваны актыўны удзел у рэальных зменах.

Пытанне не ў тым, каб ганьбаваць прагрэс, дасягнуты ў мінулым, а ў тым, каб зрабіць Еўрапейскі Саюз бліжэй да кожнага еўрапейца і сапраўды змяніць прыярытэты ў палітыцы

План працы **ECOSY** уключае некалькі пунктаў:

Новыя эканамічныя арыенціры заробкаў людзей.

Дабрабыт Еўропы і развіццё сацыяльнай абароны.

Магчымасць дзейнічаць на міжнароднай сцэне.

Эфектыўныя і дэмакратычныя ўстановы.

**Асабістае сяброўства**

Згодна мэты **ECOSY**, прапагандзіраваць Еўрапейскае грамадзянства, прадстаўляецца магчымасць быць індывідуальным сябрам арганізацыі. Гэта дае магчымасць атрымоўваць "**ECOSY — News**" і іншую рэгулярную інфармацыю, а таксама ўдзельнічаць у прапагандзе мэтаў **ECOSY**.

Індывідуальныя сябры могуць таксама ўдзельнічаць у некаторых мерапрыемствах: летніках, семінарах ці канферэнцыях.

Вы можаце завітаць на інтэрнэтаўскі сайт **ECOSY**: ***http:\\www.ecosy.org***

або каб атрымаць дадатковую інфармацыю скарыстаць адрасам рэгулярнай або электроннай пошты: **ecosy@europarl.eu.int, Rue Belliard 97-113, B-1047 Brussels, Belgium**

## Людзі гавораць...

*Улада не апаганьвае людзей; але дурні, што забіраюцца на ўладныя вяршыні, апаганьваюць уладу.

*У палітыку прыходзяць з бліскучай будучыняй, а адыходзяць з жахлівым мінулым.

*Калі вы ілжэце людзям, каб атрымаць іх грошы, — гэта ашуканства. Калі вы ілжэце людзям, каб атрымаць іх галасы, — значыць гэта выбары прэзідэнта.

*Улада — гэта такі стол, з-за якога ніхто самахоць не ўстае.

*Кожны тыран павінен ведаць памер сваёй шыі.

*Калі тысяча людзей гаворыць адно і тое ж, гэта альбо голас Бога, альбо выключная дурнота.

*Той, хто кажа вам, як цяжка быць наверсе, ніколі не быў на дне.

*Любая ўлада ідзе ад народа, ...і ўжо ніколі да яго не вяртаецца.

*Пра волю народа звычайна гаворыць той, хто гэтаму народу загадвае.

*Там, дзе ракі толькі зімуюць, мы жывём усё жыццё.

*Нам жыць — вы і вырашайце.

*Як бы кепска нам не жылося, мы на гэтым не спынімся.

*Калі прэзідэнты не могуць рабіць гэтага са сваімі жонкамі, яны робяць гэта са сваімі краінамі.

*Ці ўтрымалася б у чарадзе пачуццё статку, калі б не было паршывай аўцы?

*Тыя, хто сёння на вуснах натоўпу, заўтра будуць на ягоным языку, а пасляза́ўтра — на зубах.

*Падрыхтаваў*
*Антось Клёк*

*Інфармацыйны бюлетэнь Гродзенскай грамадскай арганізацыі МГ «ГРАМАДА» выходзіць раз у месяц на беларускай мове. Наклад 299 асобнікаў. Пры перадруку спасылкі на бюлетэнь неабавязковыя. Друкуецца пры дапамозе ГГА «Ратуша».*

*Адрас для карэспандэнцыі:*
*230003, Гродна-3, а/с 62*
*E-mail:* **hramada.news@usa.net**